facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion

# Facebook

---

ПРА ЦІШЫНЮ, ЦЯЖКІ РОК І ПРАПАГАНДУ

Да таго, як вынайшлі друкавальны варштат, сядзелі богамудрыя пісцы ў манаскіх цэлях і гусіным пяром выводзілі з цітламі мудрагелістыя літары летапісаў. Каб асэнсаваць мінулае і тое, што дзеелася “на дварэ” за мурамі і драўлянымі сценамі, розуму і сэрцу трэба была ЦІШЫНЯ.

Калі ж Гутэнбэрг вырабіў матрыцу з рухомымі літарамі, друкаванае слова стала таварам, акрамя Божага слова і хронік ў кнігах пачалі пісаць паспешлівыя тэксты пра бягучы дзень, пра спакусы ды багацце, а тыя , што былі пры ўладзе – князі ды святыя айцы (Cuius regio, eius religio) – пачалі па ўсёй Еўропе, як той Марцін Лютэр са сваімі 95 тэзамі пра індульгенцыі “Disputatio pro declaratione virtutis indulgentiarum”, навыперадкі перад сеймікамі ды ландтагамі прыбіваць на дзвярах мясцовых храмаў свае агітацыйныя налепкі. З’явілася крылатае выслоўе: Est virgo hec penna, meretrix est stampificata… Гэта сярэдневечны, не клясычны правапіс. У перакладзе: "Гусінае пяро – цнатлівая дзяўчына, друкарня – прадажная жанчына". ПАЧАЛАСЯ ПРАПАГАНДА.

Было такое і ў нас у ВКЛ. Пачытайце Андрэя Радамана.

Думаючы цяпер пра вакханалію даступнасці да занадта папулярных тлумачэнняў складаных рэчаў і пра падарожжы ў далёкія краіны праз сеціва або на звышхуткіх самалётах, якая выключае неабходнасць ЧЫТАЦЬ У ЦІШЫ КНІГІ І ЕХАЦЬ З ХУТКАСЦЮ 15 km/h, паступова асвойваючы новыя веды, ландшафты і новыя краіны, пачынаеш разумець, чаму так успрымалася тая першая інфармацыйная гутэнбэргаўская рэвалюцыя.

Я, на жаль, не маю музычнай адукацыі, але адчуваю музыку, у якой ёсць ЦІШЫНЯ. Не спяшайцеся ўсміхацца. У клясычнай музыцы, нават у джазе яна ёсць. Цішыня ў маім ужыванні – не цішыня ў зале, гэта -- мэтафара, не акустычная паўза. Седзячы ў канцэртнай зале сярод людзей, якія дыхаюць з табой на адной хвалі, -- гэта як паслухаць арган у спічастым храме, РАЗАМ узнесціся ў нябеснае святло, што прабіваецца праз шкло вітражоў. Для гэтага трэба твой кампазітар, твая заля і твая публіка. Можа, нават тваё месца.

Я гэта ўпершыню зразумеў, калі ў Сувораўскай вучэльні, як дома малым, калі хаваўся за пуняй сярод кветак, глядзеў у неба і слухаў птушак, калі нас ПРЫГАНЯЛІ на працягу паўгода ў актавую залю на музычны лекторый з надзвычай ласкавым вядоўцам са знешнасцю Вольфганга Месінга, я забіваўся ў задні шэраг крэслаў у кут і ператвараўся ў слых. Тое ж было, калі нас АРГАНІЗАВАНА знімалі з так званай самападрыхтоўкі і вадзілі на працягу шасці з паловай гадоў у Оперны тэатр, які знаходзіўся праз сквер ад нашай вучэльні на вул. Горкага ў Мінску. Тэатр быў нашым шэфам. Заля была пустая. Было шмат вольных месцаў. Я бег на галёрку і забіваўся у кут. Плыў і зыбкаўся на хвалях гукаў. Калі балелі вушы, загадваў сабе не чуць. Слухаў і кітайскую оперу, і "Табачнага капітана", і арыю эсэсаўца па-беларуску , і "Страшны двор"... З таго часу мяне не трэба пераконваць, што ў творах Манюшкі можна пачуць беларускія народныя матывы.

У цяжкім року, як у прапагандзе, -- ЦІШЫ НЯМА. Гэта – нешта, што ляжыць па другі бок чалавечай асобы. Гэта – канец чалавека. Калі хочаце, -- СМЕРЦЬ, адчуванне канца. Я уключаю БТ, каб паглядзець збоку: як прымітыўна, марна, навязліва грымяць пустыя словы, з якім напорам, як у цяжкім року, дэманструюцца хвалі шчаслівых усмешак, прыгожых ляндшафтаў, прыгожых маладых твараў, НАВАТ, КАЛІ НЯМА ГУКАВАГА СУПРАВАДЖЭННЯ, НЯМА ЦІШЫНІ… Гэта не ўваходзіць у душу.

Учора сярод рэчавых доказаў "крымінальнага" злачынства хлопца, які павесіў нацыянальны украінскі і беларускі сцяг на лініі электраперадач, паказалі ... калекцыю паштовых марак

ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА з выявай гістарычнай Пагоні. ТРУШЧАЦЬ ЛЕТАПІСЫ І ГІСТОРЫЮ ...

Музыка, пэўна, папярэднічала слову (я не маю на ўвазе БОСКІ ЛОГАС), яна лілася з неба і наваколля. Людзі перш пачулі гармонію ЗЫКАЎ наваколля, чым загаварылі.

Разумную цынічную прапаганду цікава слухаць, як калі-небудзь бывае захапляльна слухаць манюку, які складна брэша. Пра такога гаварылі: кажа – як вяжа … Я не магу прыпомніць рамантыкаў-ідэалістаў, якія славілі пераканаўча і шчыра “совецкую новь” і дасягненні. Я слухаў адзін раз жыўцом нашага земляка, камуніста Жарэса Алферава, лаўрэата Нобелеўскай прэміі. Розум і эмоцыі рабілі амаль немагчымае. Ён быў сімпатычны савецкі грамадзянін. Аднак гэта тычылася фактычна эфектыўнасці аўральных “шарашак” сталінскага тыпу. Ён, праўда, узгадаў максіму нобелеўскага лаўрэата па эканоміцы Мілтана Фрыдмана (спажыванне, манетарная тэорыя, права), які сфармуляваў, актуальна па-беларуску кажучы, прынцып пабудовы “краіны для жыцця”: ідэальная мараль для бізнэса – множыць прыбытак і строга выконваць патрабаванні законаў. Праўда, тут жа заўважыў, што ў савецкіх традыцыях “часта было не да законаў”, бо ўвесь час жылі “у пераходны перыяд”.